«Сіла, брат, у грамадзе!»

Я. КОЛАС

# Сумежжа

ПАСТАЎСКАЯ НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

Выдаецца з ліпеня 1991 года

№ 20 (63) | 4—17 ЛІСТАПАДА 1994 ГОДА | Цана дагаварная

## Свабоднае слова для свабодных людзей „Сумежжа"—95

Правінцыйныя хронікі — Дзень за днём
Насустрач выбарам — Рэха падзей
Лёсы людскія — Прыслухаемся
Кароткі катэхізм хрысціянскай навукі
Новыя вершы — З нагоды
Як жывём? — Супер-факт
Нам пішуць — Пазіцыя
Пыталіся-адказваем — Экспрэс-апытанне
Інфармацыя для роздуму — «Белыя плямы» гісторыі
Каштоўныя парады — Анекдот

Наш індэкс 63986

Кошт падпіскі на паўгода — 1200 руб., на 3 м-цы — 600 руб., на месяц — 200 руб.

Шчыры працаўнік і сумленны беларус — наша газета для вас.

Будзьце з намі, сябры.

ПРЫСЛУХАЕМСЯ

## Станіслаў Шушкевіч: перспектывы нашы сумныя

**Лукашэнка быў катэгарычным антырыначнікам пад час выбарчай кампаніі. Потым ён, здалося, стаў рыначнікам. Я не думаю, што гэта яго ідэі. Што да ўрада — тут усё ёсць: і кіраўнік, і намеснік. Яны разумеюць але, вы мяне прабачце, калі мне гавораць, што Мяснікові альбо Лінг тым больш рыначнікі, то гэта самы кароткі анекдот і самы смешны. За гэту антыкрызісную праграму нельга будзе спытаць у прэзідэнта, таму што там так многа выканаўцаў, пакуль ён іх будзе разганяць, падбіраць іншых, зноў забудуць, з чаго пачыналі...**

**У цяперашнім Вярхоўным Савеце нічога не зробіш. Ветэраны будуць змагацца за свае ільготы, аграрыі будуць гаварыць пра тое, што мерзнуць цяплічныя камбінаты. Няма тут разумення адрознення рынку ад кірмашу. Я буду шчаслівы, калі я памылюся і калі да Новага года года мы зменшым тэмпы росту інфляцыі, я публічна прызнаю памылку, што недаацэньваў тую магутную каманду .**

РЭПЛІКА

## На паклон?

Выступленне прэзідэнта па тэлебачанні ў пятніцу, безумоўна, стане тэмай шматлікіх размоў і каментарыяў. Адно зразумела; пачынаецца ў нашых вярхах канфрантацыя, якая ні чаго добрага не прывядзе. Усё развіваецца як і раней па маскоўскаму, гор каму сцэнарыю. Нашы кіраўнікі ўсіх галін улады не захацелі зрабіць для сябе ніякіх вывадаў. Але пакінем гэта ўбаку. Хацелася б звярнуць увагу на адну акалічнасць выступлення.

Прэзідэнт суверэннай дзяржавы, які на некалькі дзён знік з палітычнага небасхілу і мала каму было вядома, дзе ён сапраўды знаходзіўся (ну няма ў нас яшчэ сапраўднай цывілізацыі) сам заявіў, што ў адзін з гэтых дзён быў у Маскве і меў сустрэчы, гутаркі з кіраўнікамі суседняй дзяржавы, якія былі вельмі плённымі па яго вызначэнні. Але чаму аб гэтым не было паведамленняў у друку? Калі прэзідэнт адной краіны сустракаецца з прадстаўнікамі другой на іх тэрыторыі — гэта ўжо візіт, гэта ўжо пратакол. А дзе тэлевізія, газеты, дзе ганаровая варта? Візіт насіў прыватны характар. Але ж як гаворыць сам прэзідэнт размова ішла аб жыццёва важных для Беларусі пытаннях. Няўжо іх можна абгаворваць у прыватным парадку?

Верагодней за ўсё па старой завядзёнцы мінскі госць ездзіў да маскоўскоўскіх начальнікаў з паклонам. А тут ужо не да пратаколаў і ганаровых варт.

Кар. «Сумежжа».

## Сярэдняя зарплата ў ЗША па асобных прафесіях

(долараў у тыдзень)

**Юрыст — 990, інжынер-хімік—807, інжынер-механік — 766, фармацэўт — 748, сістэмны аналітык — 711, выкладчык каледжа —711, эканаміст — 704, архітэктар — 667, праграміст ЭВМ — 606, тэхнік тэлефоннай сеткі — 602, слесар-інструментальшчык — 593,** дыпламаваная медсястра — 569, тэхнік па рамонту аргтэхнікі — 562, тэхнік-электрык — 556, паліцэйскі-дэтэктыў — 554, выкладчык сярэдняй школы — 545, хімік-тэхнолаг — 530, псіхіатр — 523, бухгалтар — 522, страхавы агент — 513, тэрапеўт — 511, тэхнік-механік — 504, вадаправодчык—495.




З НАГОДЫ

## Каму патрэбна такая паказуха?

Відаць, на працягу апошняга года наш Пастаўскі райспажыўсаюз рыхтаваўся да правядзення ў раёне рэспубліканскага семінара па гандлю. Семінары, нейкая вучоба, канечне, патрэбны. Але тое, што робіцца ў Паставах усё больш напамінае часы сумна вядомай паказухі. Прыведзены ва ўзорны стан кірмаш, база, іншыя аб'екты кааператыўнага гандлю, адрамантаваны ўнівермаг, кнігарня, іншыя гандлёвыя ўстановы. Гэта само па сабе і нядрэнна. Але паглядзіце ўважліва: што сёння у горадзе будуецца? Толькі ці амаль што толькі гандлевыя аб'екты ці аб'екты, якія належаць сістэме райспажыўсаюза. Такая шчырая падрыхтоўка да семінара выклікае ўсё-такі адно пытанне: адкуль грошы? Усе стогнуць, што не тое, што пабудаваць, адрамантаваць нічога не могуць. А ў гандлі работы ідуць поўным ходам. Даюць грошы з вобласці? Наш распаўжыўсаюз такі багаты?

Але калі ў нас такі багаты райспажыўсаюз і так спраўна ён працуе, то чаму ў насельніцтва да яго ўсё больш прэтэнзій. Пастаўчане забыліся ўжо на тое, што можна свабодна купіць белы хлеб і хлебабулачныя вырабы. А між тым у суседніх раёнах вобласці такіх праблем няма. Камандзіровачныя з тых раёнаў прывозяць белае і хлеб, які значна смачней за пастаўскі. Чаму ў Паставах практычна немагчыма купіць той жа чай, тварог. Паедзеш у Мінскую вобласць, у Гродзенскую — там бяры колькі хочаш, любых гатункаў. І ў такіх жа невялікіх райцэнтрах, як Паставы. Узяць тую ж гарэлку і гарэлачныя вырабы. Ну не можам мы без іх пакуль што абысціся. Але ў Паставах выбар бедны. А вось у іншых райцэнтрах, асабліва ўбок Мінска ёсць усё. Нават рабіна на кан'яку. Чаму гэта? Калі гэтаму неяк «спрыяе» падрыхтоўка да семінара, то навошта нам такая паказуха. Ды, па ўсім відаць, семінара таго і не будзе. Бо дзейнасць старшыні «Белкаапсаюза» атрымала крайне негатыўную ацэнку прэзідэнта. Аказваецца, у гэтай сістэме не выконваюцца элементарныя правілы абслугоўвання пакупнікоў.

П. УЛЬЯНАВА,
жыхарка г. Паставы.

## Айчынная гарэлка вяртаецца ў „камкі"

Сапраўды, нічога пастаяннага, акрамя крызісу, у нашай краіне няма. У канцы кастрычніка беларускі ўрад да 1 сакавіка будучага года ўвёў новы часовы парадак продажу беларускай гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў. Гандляваць любімым народам напоем цяпер можна ўсім пры наяўнасці ліцэнзіі і часовага дазволу на права гандлю гэтым хадавым таварам. Адпаведнае даручэнне выдаваць такія дазволы атрымаў і Пастаўскі райвыканкам, а «гарэлачныя» заводы атрымалі права яе адпускаць. Зразумела і чаму гэта робіцца. Пасля неразумнага рэзкага павышэння цаны на «зялёнага змея» дзяржаўны гандаль часта адмаўляецца гарэлку браць, бо рэалізацыя ідзе са скрыпам. Аднак па-ранейшаму атрымаць жаданую ліцэнзію зможа не кожны суб'ект гаспадарання, якому дазволена гандлёвая дзейнасць. У нас, як і раней, вырашае прыбліжанасць да начальства. У магазінах калгасаў «Дружба», «Прагрэс», і іншых, пэўна, беларуская гарэлка хутка з'явіцца. Дарэчы, за 4 апошнія гады вытворчасць гарэлкі на Беларусі ўзрасла ў 1,6 раза, а вось пладова-ягадных він аж, страшна падумаць, у 72 разы.

## Жыццю сабачаму не бачна канца

— На працягу 4 апошніх гадоў беларуская дзяржава перакладвае свае пралікі ў рэфарміраванні эканомікі на плечы працоўных.

— На 1-га кастрычніка 1994 г. колькасць зарэгістраваных беспрацоўных складала 99500 чалавек (2% ад колькасці працаздольнага насельніцтва).

— Скрытае беспрацоўе, праца толькі 2—3 дні ў тыдзень ахапіла ўжо 800000 чалавек (15—20% ад колькасці занятых).

— Ды і ў тых, хто працуе, сярэдняя зарплата па доляраваму эквіваленту ў Беларусі — на апошнім месцы сярод рэспублік былога СССР.

— Узровень беларускай зарплаты адстае ад Расіі амаль у 4 разы, ад Літвы — у 3,3 разы, ад Латвіі — 5,2 разы.

— Таптанне на месцы, папулісцкія рашэнні яшчэ больш пагаршаюць сітуацыю ў эканоміцы.

# Кароткі катэхізм хрысціянскай навукі

(Працяг. Пачатак у №№ 1, 3, 5, 8, 13—17 за 1994. №№ 17—22 за 1993 г.)

**134. Хто звычайна выконвае абрад хросту?**

Звычайна выконвае абрад хросту святар. Аднак у выпадку патрэбы хрысціць можа кожная асоба.

**135. Якую ласку атрымліваем у сакраманце хросту?**

У сакраманце хросту атрымліваем асвячальную ласку, дзякуючы якой стаемся ўдзельнікамі Божага жыцця.

**136. Ці ў хросце атрымліваем адпушчэнне грахоў?**

У хросце вызваляемся ад першароднага граху, і — у выпадку хросту дарослых, — атрымліваем адпушчэнне ўсіх нашых мінулых асабістых правінаў.

**137. Што такое сакрамант хрызмавання?**

Хрызмаванне — гэта сакрамант, у якім хрысціянін, праз памазанне святым алеем і малітву, атрымлівае ласку Святога Духа непахісна і мужна вызнаваць сваю веру, набожна жыць і ў разе патрэбы аддаць жыццё за Хрыста.

**138. Хто выконвае абрад хрызмавання?**

У Рымскім абрадзе хрызмаванне выконвае звычайна біскуп, праз ускладанне рук, знак крыжа алеем святым (мірам) і малітву. Ва Усходнім абрадзе хрызмаванне звычайна выконвае святар адразу пасля хросту.

**139. Як дзейнічае сакрамант хрызмавання?**

Сакрамант хрызмавання павялічвае асвячальную ласку, дае асаблівую дзейную ласку і кладзе на душы незнішчальны знак (характар) сведка і воя Хрыстовага.

**140. Які найвялікшы з усіх сакрамантаў?**

Найвялікшым з усіх сакрамантаў з'яўляецца сакрамант Святой Эўхарыстыі.

**141. Што такое Святая Эўхарыстыя?**

Святая Эўхарыстыя — гэта сакрамант і ахвяра, у якой Езус Хрыстос пад выглядам хлеба і віна ахвяруецца і даецца верным.

**142. Калі Хрыстос устанавіў Эўхарыстыю?**

Хрыстос устанавіў Эўхарыстыю на Апошняй Вячэры: «Калі яны елі, Езус, узяўшы хлеб, блаславіў яго і, разламаўшы, даў ім і сказаў: «Бярыце, ешце, гэта цела Маё». І, узяўшы чашу і аддаўшы хвалу, даў ім, і ўсе пілі з яе. І сказаў ім: «Гэта кроў Мая Новага Запавету, якая праліваецца за многіх») Мк. 14:22—24).

ДЛЯ ДОМА, ДЛЯ СЯМ'І

## Калі няма накрывак

Пры хатнім кансерваванні ў шкляной тары можна абысціся без накрывак. Зрабіць гэта няцяжка. Гарлавіну пасудзіны накрываюць поліэтыленавай плёнкай у адзін слой, краі апускаюць уніз і абмотваюць лёскай або трывалай ільняной ніткай не менш чым паўтара дзесяткамі віткоў. Плёнка пры гэтым павінна быць моцна нацягнута.

Стэрылізуюць слоікі як звычайна. Пры награванні плёнка ўзнімаецца, пры астыванні ўцягваецца ў слоік, але не рвецца. Гэта пацвярджае герметычнасць кансервацыі. Пры працяглым захоўванні, каб пазбегнуць выпадковых прарываў плёнкі, на гарлавіну слоікаў кладуць старыя металічныя накрыўкі або кружочкі з кардону.

Ёсць старадаўнія спосабы кансервавання без накрывак. Слоікі, бутэлькі запаўняюць да краёў нарыхтоўкамі з агароднiны і закаркоўваюць так, каб паміж коркам і змесцівам посуду не заставалася прасторы. Заліваюць коркі парафінам, абвязваюць рыльца палатном, намочаным у парафіне.

Надзейна закаркаваць слоікі з хатнімі нарыхтоўкамі можна і з дапамогай воску. Пасля звычайнага напаўнення і стэрылізацыі слоікаў на паверхню змесціва льюць расплаўлены воск. Таўшчыня слоя павінна быць каля двух сантыметраў Такім чынам атрымліваецца герметычная накрыўка, якая выключае пападанне паветра.

«БЕЛЫЯ ПЛЯМЫ» ГІСТОРЫІ

ВАЛЕРЫЙ КРАСОЎСКІ

# Што такое сапраўдны бальшавік?

ДАКУМЕНТАЛЬНЫ НАРЫС

**Яшчэ нядаўна Ленін быў для многіх Богам. Ён і мудры, і бліскучы арганізатар, і самы чалавечны. Але вось па кропельках, праз таўшчыню мармуру і пазалоты, стала прасочвацца праўда — чытач ужо знаёмы з многімі раней засакрэчанымі фактамі. А зараз адкрыліся новыя дакументы. Яны паказваюць нам сапраўднага Леніна, страшнага дыктатара і авантурыста да вар'яцтва ў палітыцы.**

... Адразу ж пасля кастрычніцкага перавароту Ленін аб'явіў «атаку красногвардейцев на капитал». Былі захоплены дварцы, уключаючы Зімні, абрабаваны банкі, ювелірныя магазіны, касы буйных гандлёвых прадпрыемстваў, прыватныя касы ўзаемадапамогі, банкаўскія філіялы на заводах. Неўзабаве вышла распараджэнне: «Служащие государственного банка, отказывающиеся признать правительство рабочих и крестьян — Совет народных комиссаров — и сдать дела по банку, должны быть арестованы. Председатель СНК В. Ульянов (Ленин), секретарь СНК Н. Горбунов».

Прычынай успышкі ленінскага гневу былі дзве абставіны. Па-першае, нежаданне банка адкрыць месца свайго сховішча золата, па-другое, невыкананне, што б вы думалі, прадпісання Леніна адкрыць для яго асабісты рахунак і перавесці на яго з актываў банка пяць мільёнаў залатых рублёў з наступным запатрабаваннем на гэты рахунак любых сум без якога-небудзь права адмовы. Грошы з гэтага рахунка мог здымаць толькі Ленін ці Гарбуноў.

Распіхаўшы па замежных банках нарабаванае, члены ленінскага ЦК, як і іх правадыр, ні ў чым не адмаўлялі сабе на гістарычнай радзіме Жылі, як правіла, у старажытных асабняках, мелі слабасць да дарагой мэблі, сталовага золата і серабра, каштоўных сервізаў і дываноў, а таксама да карцін старых майстроў. Шынелі і касавароткі былі ў іх чымсці накшталт спецвопраткі.

У асабняках нават быў захаваны стары вымуштраваны штат прыслугі, дварэцкія і повары. У самы разгар небывалага голаду, калі паміралі штодзённа дзесяткі тысяч чалавек, «сціплы» Ільіч выгаварваў Гарбунову, што «икра вчера имела страшный запашок», «грибы были в безобразном маринаде» и нарэшце што «неплохо бы повара посадить на недельку в тюрьму». Але да гэтага бальшавіцкаму лідэру трэба было яшчэ дайсці праз гады выпрабаванняў і інтрыг.

На гістарычным гарызонце 20 стагоддзя фігуры Леніна, Сталіна, Гітлера стаяць побач. Усе яны ідэолагі, заснавальнікі або будаўнікі таталітарных рэжымаў. Але ўсё ж найбольш вялікім будаўніком, безумоўна, належыць лічыць Леніна. Гістарычная заслуга яго ў тым, што прымус, гэтая «повиальная бабка истории», стала мачахай многіх народаў Еўразіі. Дарэчы, цікавы штрых: дыктатары вызначаліся нізкім ростам: Ленін — 161 см, Сталін — 164 см, Гітлер — 158 см.

«Ну які дыктатар з Уладзіміра Ільіча? — гнеўна абурацца пакрыўджаныя ленінцы. — Рашэнні прымаліся калегіяльна». Сёння мы цудоўна разумеем, што славутай калегіяльнасцю добра маскіруюцца самыя дзікія рэчы. А праўда ў тым, што пасля Кастрычніка ніводнае прынцыповае рашэнне ўрада бальшавікоў не было прынята супраць волі Леніна. Што, безумоўна, зразумела: дыктатура — ці то «пралетарская», ці то фашысцкая, без дыктатараў не бывае.



Сведкі тых паслякастрычніцкіх дзён ужо ясна адрознівалі ролю кожнага з самых важных бальшавікоў. Вось што пісаў у сваіх дзённікавых запісах сацыяліст Жак Садуль, праз некаторы час прыцягнуты французскімі ўладамі да суда за сувязь з бальшавікамі: «8 студзеня 1918 г. Дыктатары пралетарыята пакінулі Петраград. Троцкі ў Брэсце. Ленін паехаў у Фінляндыю адпачываць на некалькі дзён... Гэта выдатныя людзі, правадыры натоўпу, якіх я яшчэ не бачыў».

Леніну ўдалося павярнуць кола гісторыі ў другі бок, у выніку чаго для соцень мільёнаў людзей усё гэта абярнулася трагедыямі. Іх наступствы яшчэ і сёння прыходзіцца у муках пераадольваць. Зараз ужо без сумнення бачна, што кастрычніцкі пераварот і камуністычныя эксперыменты пасля яго былі авантюрай чыстай вады.

Наогул усе «левыя» перавароты падобныя на ўгон авіялайнера. Спачатку поспех — самалёт ляціць па маршруту, указанаму ўгоншчыкамі. Але толькі да таго часу, пакуль не прыходзіцца садзіцца. Садзіцца ў канчатковым выніку прыходзіцца ў турму. Так і пераварот: спачатку поспех, дыктатура, ліквідацыя прыватнай уласнасці. Але гісторыя жорстка помсціць за прымус над сабою: эканамічнай адсталасцю, дэградацыяй грамадства, сацыяльнымі катаклізмамі, крывёю. Правадырам у рэшце рэшт прыходзіцца садзіцца ў турму. На жаль, не ўсім.

І вось ужо абсыпаецца пазалота з аблічча вялікага чалавека. Дарэчы, і раней было вядома, што Ільіч асабліва не цырымоніўся: «расстрелять», «запереть в концентрационный лагерь» і г. д., але сёння, калі «засвяціліся» некаторыя з трох з паловай тысяч пісьмаў, тэлеграм і запісак Леніна, якія захоўваліся з трох з паловай тысяч пісьмаў, тэлеграм і запісак Леніна, якія захоўваліся ў сакрэтных архівах ЦК і нідзе раней не друкаваліся, мы даведаліся і аб «ленінскіх прэміях» («Сто тысяч рублей за повешенного») і аб садысцкім захапленні дыктатара сваёй уладай («повесить, обязательно повесить!»... «Чем большее число представителей реакционного духовенства и буржуазии нам удастся по этому поводу расстрелять, тем лучше...»).

У расстрэльным фальклоры правадыра бальшавікоў сустракаюцца і своеасаблівыя шэдэўры, такія, напрыклад, як «... вывезти и расстрелять сотни проституток, спаивающих солдат, офицеров...».

Каго ж страляць: афіцэраў і «проституток, спаивающих солдат», або толькі прастытутак? Па сутнасці як у вядомым: «расстраляць нельга павесіць». Трэба думаць, што тых, хто растрэльваў, сумненні не мучылі, яны разумелі свайго правадыра з паўслова і афіцэраў наўрад ці ў жывых пакідалі. Але таленавітая маскіроўка відавочная. (Дарэчы, дзе Ільіч сустракаў прастытутак, якія гасцілі сваіх кліентаў гарэлкай? Не ў швейцарскіх ці прытонах? У бальшавіцкай жа Расіі прастытуткамі станавіліся, як правіла, жанчыны з інтэлігентных сем'яў, вымушаныя займацца гэтай справай, каб не памерці з голаду. Аб гарэлцы не магло і быць размовы).

Ленін быў своеасаблівым ідэалагічным суперменам: ён перамагаў усіх сваіх ідэалагічных праціўнікаў ці па крайняй меры адчуваў сваю перавагу над імі.

Агрэсіўны розум, які пастаянна трэніраваўся, здольнасць да звыш хуткага чытання...

Уладзімір Ульянаў у нашы дні ўпаўне магчыма стаў бы чэмпіёнам свету па хуткіх шахматах. Калі б не хвароба мозга, якая мучыла яго, як высвятляецца доўгія гады. У радаслоўнай Ульянава-Леніна ёсць башкіры, шведы, яўрэі. Гледзячы на яго скуласты твар, цяжка атарвацца ад думкі, што па яговых продках не прайшла незаўважанай шмат стагоддзяў таму назад мангольская арда. Ва ўсякім разе жорсткасць робіць яго падобным на гэтых ваяўнічых качэўнікаў.

У сямідзесятыя гады нашага стагоддзя казанскі прафесар Нафігаў спрабаваў, праўда беспаспяхова, надрукаваць сваю кнігу «Ленін ў Паволжы». У ёй утрымліваецца шмат раней невядомых звестак аб жыцці маладога Уладзіміра Ульянава. У прыватнасці, паведамляецца такі факт, што ў гімназіі Валодзя пачаў вучыцца на год пазней з-за хваробы галавы. Калі хлопчыка паказалі ўрачу па вачах, які лічыўся буйным спецыялістам у сваёй галіне, то ён прадказаў слепату і мазгавое захворванне.

**(Працяг будзе).**

«Сумежжа». Заснавальнікі: Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Рэгістрацыйны нумар 701 у міністэрстве інфармацыі РБ. Выходзіць два разы на месяц.

Рэдакцыйны савет А. Гарбуль, М. Гіль, А. Касцень, І. Сідаровіч, У. Шык, І. Атрахімовіч, Ф. Цыбульскі, А. Стахоўскі, Г. Гучык.
Рэдакцыя друкуе матэрыялы аўтараў, пазіцыю якіх не заўжды падзяляе.
Пішыце: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, д. 11 Гілю М. Н. Тэлефануйце: 2-17-84, (пасля 19 гадзін)

Індэкс 63886. Тыр. 500
Пастаўская узбуйненая друкарня г. Паставы, вул. Ленінская, 42.
Падпісана да друку 17.11.94.
Зак. 1998.
Выдаецца на грамадскіх пачатках.